# НАВІНЫ



**Акадэміі навук Беларусі**

*Заснавана ў кастрычніку 1979 года* ● *№ 17(746)* ● *6 мая 1994 г.* ● *Цана 25 руб.*


ДЫРЭКТАРСКАЯ ТРЫБУНА

*Аляксандр Міхалевіч:*

## «МЫ СПАЗНІЛІСЯ НА 20 ГАДОЎ»

**Ад таго, як будуць зараз вырашаны праблемы энергетыкі рэспублікі, залежыць наша бліжэйшая будучыня. І адна з іх — ключавая: быць ці не быць Беларускай АЭС?**

**Наш карэспандэнт сустрэўся з дырэктарам Інстытута праблем энергетыкі членам-карэспандэнтам АН Беларусі Аляксандрам Аляксандравічам МІХАЛЕВІЧАМ, каб высветліць гэтае пытанне і цесна звязаныя з ім.**

*— На апошнім пасяджэнні прэзідыума АНБ выявіліся два пункты гледжання на энергаўзброенасць рэспублікі: 1) у нас энергіі дастаткова, трэба толькі навучыцца яе як належыць расходаваць. Японія, напрыклад, нават змяншае энергавытворчасць, а ВНП расце; 2) развітыя краіны спажываюць шмат энергіі (у Фінляндыі — у 3 разы болей на душу насельніцтва), і калі мы хочам быць развітымі, нам трэба развіваць энергетыку.*

*А які ваш пункт гледжання?*

— Ёсць некалькі паказчыкаў эканамічнага развіцця краіны, і агульная колькасць спажывання энергіі — адзін з іх. Але больш выразнымі паказчыкамі можна лічыць два: долю электраэнергіі ў агульным энергетычным балансе і ўзровень спажывання электраэнергіі на аднаго чалавека. Чаму менавіта электраэнергія — зразумела: ад яе непасрэдна залежаць наш быт, транспарт, сервіснае абслугоўванне, прыладабудаванне.

Дык вось некалькі лічбаў для параўнання. У 1993 г. першы паказчык (у працэнтах) быў: Беларусь — 24 (у былым СССР — 22), ЗША — каля 40, Японія — 45, Францыя — каля 50. Другі паказчык (у МВт-гадз. у год) выглядае так: Беларусь — 3940, Францыя — 5800, Японія — 6000, Аўстралія — 8800, ЗША — 12200, Швецыя — 17300, Канада— 18800.

Прычым з гэтых амаль 4000 МВт-гадз. у год не ўсе «нашы», толькі 3300; астатняе купляецца ў Расіі і Літвы. Дарэчы, гэты «лішак» мы атрымліваем дзякуючы Смаленскай і Ігналінскай АЭС, размешчаных уздоўж беларускай границы.

*— На тым самым пасяджэнні акадэмік Р. Г. Гарэцкі гаварыў, што няпроста будзе адшукаць у Беларусі добрае месца пад АЭС. Дык можа праў быў член-карэспандэнт АНБ В. Б. Несцярэнка, які прапаноўваў будаваць беларускую АЭС за межамі Беларусі?*

— Выбар пляцовак пад АЭС вядзецца ў 3 этапы, якія адрозніваюцца ўзроўнем прапрацоўкі. Першы — па літаратурных даных, пры кансультацыі з геолагамі і гідролагамі. Другі — па абмежаванай колькасці адшуканняў на адабраных пляцоўках (геалагічных, гідралагічных, сейсмалагічных і інш.) І ўрэшце трэці — па найбольш поўных выпрабаваннях на кожнай з 5—6 адабраных на другім этапе пляцовак.

На цяперашні час з 72 пляцовак-кандыдатаў засталося 17. Так што выбар ёсць неблагі.

Што ж тычыцца прапановы В. Б. Несцярэнкі, то яна абсурдна. АЭС не можа належаць дзвюм дзяржавам адначасова. У сусвеце няма ніводнай «міждзяржаўнай» АЭС, і гэта зусім зразумела: павінна ж быць адказнасць за бяспечнасць. Калі наша АЭС будзе, напрыклад, у Расіі, то мы і ў гэтым будзем ад яе залежаць.

*— Увесці ў дзеянне беларускую АЭС удасца ў лепшым выпадку праз 5—7 год. Гэта значыць, што мы з вамі абмяркоўваем справы ў беларускай энергетыцы пачатку XXI стагоддзя. Пытанне ж з энергазабеспячэннем, энерганосьбітамі стаіць сёння, зараз, незалежна ад рашэнняў па канцэпцыі развіцця атамнай энергетыкі. Ці ёсць у вас што прапанаваць ураду?*

— Не зусім карэктнае пытанне, бо яно мяркуе выбар, якога на самой справе няма. Вось простыя лічбы. У 1992-м годзе мы спажылі 16 млрд. кубаметраў газу, 5,5 млн. тон мазуту. У сённяшніх цэнах (50 долараў за 1000 кубаметраў газу і 62 долары за тону мазуту) гэта складае 1 млрд. 141 млн. долараў.

Да гэтай лічбы трэба дадаць яшчэ амаль 300 млн. долараў — за імпарт электраэнергіі з Расіі. І такую суму трэба будзе плаціць не адночы, а штогод. Прычым гэта яшчэ «кепскі» год, калі найбольш «упала» вытворчасць і звязаная з ёй неабходнасць вытворчасці электраэнергіі.

Пры гэтым варта адзначыць, што замяшчэнне 1 ГВт за кошт АЭС дазволіла б штогод эканоміць каля 10 працэнтаў сродкаў, прызначаных на паліва, г.зн. каля 150 млн. долараў.

Што ж тычыцца прапаноў, то яны ёсць. Мы прапануем павышаць каэфіцыент карыснага дзеяння электрастанцый, не павялічваючы закупак паліва. Прапануецца замена паратурбін (ккдз 30—35 працэнтаў) на парагазавыя і газатурбінныя ўстаноўкі (ккдз 40—45 працэнтаў), а таксама максімальнае выкарыстанне мясцовых паліўных рэсурсаў. Яны маглі б быць выкарыстаны больш эфектыўна ў вытворчасці электраэнергіі і пераважна цяпла. Пры гэтым мяркуецца шырока выкарыстоўваць метад газагенерацыі. Атрыманы генератарны газ паслужыць палівам для малых ЦЭЦ. Адпаведныя праграмы распрацаваны ў некаторых рэгіёнах і праведзены. У нацыянальна-энергетычнай праграме прадугледжана таксама зніжэнне на 40 працэнтаў энергаёмістасці вытворчасці.

*— Ядзернае паліва, па сутнасці, аказалася па-за рамкамі абмеркавання на пасяджэнні прэзідыума, хаця акадэмік А. В. Мацвееў яго ўзнімаў. Хіба ў Беларусі вялікія яго запасы?*

— У пэўным сэнсе так. Па-першае, прыродны уран размеркаваны па тэрыторыях амаль што раўнамерна. Разведаныя запасы тым больш, чым больш сродкаў укладзена ў разведку. А па-другое... Але тут, патрабуецца невялікае адступленне. У рэактарах выкарыстоўваецца альбо прыродны уран (0,7 працэнта урана-235, 99,3 працэнта урана-238), або ўзбагачанае паліва (2—4 працэнты урана-235). Менавіта яно і выкарыстоўваецца ў нашых рэактарах. Дык вось, у выніку скарачэння ваенных заказаў на складах накапіўся залішак ядзернага паліва. Апрача таго, ёсць атамныя боегаловкі, іх зарад змяшчае уран-235 ужо ў колькасці каля 95 працэнтаў. Гэты зарад можа быць выкарыстаны і як паліва для АЭС пасля адпаведнай апрацоўкі.

Па ацэнках, бомбавага запасу ЗША і былога СССР хапіла б на 4 гады непарыўнай работы ўсіх АЭС свету. У гэтым запасе ёсць доля і Беларусі. Камерцыйная вартасць гэтых боегаловак 2—10 млрд. долараў ЗША. У мінулым годзе прэзідэнт АНБ Л. М. Сушчэня, міністр энергетыкі В. В. Герасімаў і міністр абароны П. П. Казлоўскі звярнуліся з пісьмом да Старшыні Савміна В. Ф. Кебіча і Старшыні Вярхоўнага Савета С. С. Шушкевіча з прапановай: улічыць «пры развёдзе» камерцыйную вартасць боегаловак, што знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі. На жаль, прапанова не была ўзята пад увагу. А вось Л. М. Краўчук паступіў інакш. Ён звязаў перадачу ўкраінскіх боегаловак Маскве з пастаўкамі ядзернага паліва і пагашэннем доўгу Украіны за энерганосьбіты.

*— З якой краіны свету Беларусь магла б браць прыклад у сэнсе пастановкі справы з АЭС? З Францыі?*

— Хутчэй з Паўднёвай Карэі. Я там быў у мінулым годзе, і тое, што ўбачыў, уражвае. Там АЭС будуецца за 5 год. Усяго ў іх 9 (!) АЭС агульнай магутнасцю ў 7,2 ГВт, будуецца яшчэ 3 (на 2,5 ГВт разам). Да канца 2000 г. Паўднёвая Карэя будзе мець 10 «атамных» гігават.

*— А па ўзроўню бяспекі?*

— Ёсць такі інтэгральны паказчык надзейнасці атамнай станцыі — каэфіцыент выкарыстання магутнасці (квм). Дык вось, па гэтаму паказчыку наперад выйшла адна з паўднёвакарэйскіх АЭС канадскага тыпу, якая з 1983 г. двойчы давала найвышэйшы ў свеце квм і двойчы — другі з лепшых. Яе квм за 10 год склаў 86 працэнтаў. Для параўнання: лепшыя цеплавыя электрастанцыі маюць квм у межах 75 працэнтаў. У свеце ўжо ёсць АЭС, у якіх гэты паказчык надзейнасці за год узняўся да 100 працэнтаў!

*— Як вы ацэньваеце сукупную ролю альтэрнатыўных крыніц энергіі: 1) зараз; 2) у нейкай будучыні, калі яны будуць максімальна «задзейнічаны»?*

— У 1993 г. у Джакарце адбылася Сусветная энергетычная нарада, якая дала ацэнку ўсіх так званых нетрадыцыйных крыніц энергіі: малых рэк, ветру, сонца, біягазу. Іх доля ў сусветнай энергетыцы аказалася на ўзроўні 2 працэнтаў. Лічыцца, што ў самым лепшым выпадку ў 2020 г. яна можа дасягнуць 4-працэнтнай адзнакі.

Беларусь можа разлічваць, у прынцыпе, толькі за кошт арганічных адходаў (біягазу) узняць долю нетрадыцыйнай энергіі і давесці яе да 2 працэнтаў, бо першыя тры крыніцы — малыя рэкі, вецер, сонца — не вельмі ў нашых умовах перспектыўныя для выкарыстання. Малых рэк з хуткім цячэннем мала; сярэдняя хуткасць ветру 3,9 м/с, тады як ветраўстаноўкі нармальна працуюць пачынаючы толькі з 8 м/с; у зімовыя месяцы, калі патрэба ў энергіі больш, геліяўстаноўкі малаэфектыўныя, бо высокая верагоднасць пахмурнага неба: 73—85 працэнтаў.

*— Чаму была спынена пабудова Мінскай АЦЭЦ?*

— Адразу пасля Чарнобыльскай катастрофы былі перагледжаны міжнародныя нормы па размяшчэнню АЭС каля населеных пунктаў. Было ўстаноўлена, што для станцыі мінскага тыпу, для горада, падобнага Мінску (больш за 2 млн. насельніцтва), адлегласць паміж імі павінна быць больш за 100 км. Перадача цяпла за 100 км — нонсенс, а бліжэй — нельга. І было вырашана спыніць будаўніцтва. Дарэчы, АЦЭЦ зараз як клас АЭС ужо не існуюць — прызнаны састарэлымі. Іх ролю павінны ўзяць атамныя кацельныя, канструкцыі якіх распрацоўваюцца.

*— На колькі гадоў, як вы лічыце, Беларусь спазнілася з будаўніцтвам АЭС?*

— Ігналінская АЭС магла б быць не на літоўскім, а на нашым беразе возера Дрысвяты, каб не валюнтарысцкае рашэнне П. М. Машэрава, тагачаснага першага сакратара ЦК КПБ. Будаваць яе пачалі ў 70-х гадах. Так што мы спазніліся на 20 гадоў.

*— Уздзеянне чарнобыльскага выбуху на грамадскую свядомасць было велізарнае, і зараз яно яшчэ працягваецца.*

*Якой вы бачыце задачу прэсы ў пераадоленні гэтага выніку? І як яе можна б было найлепшым чынам вырашыць?*

— Чарнобыльскі сіндром у значнай меры ўзмацніўся менавіта таму, што частка інфармацыі была закрыта, а частка свядома скажалася. Добра, каб прэса: 1) давала рэгулярную і праўдзівую інфармацыю; 2) не дапушчала непісьменных выступленняў (якімі грашыць, напрыклад, газета «Набат»).

Скажу са свайго асабістага вопыту. У мяне кафедра у Акадэміі кіравання — па радыялогіі і ахове навакольнага асяроддзя. Мы вядзем падрыхтоўку спецыялістаў для работы ў зонах. За час існавання праз нашы рукі прайшло 3 тысячы чалавек. Дык вось, падрыхтоўка цудоўна здымае радыёфобію. Праціўнікаў атамнай энергетыкі з гэтых 3 тысяч засталіся лічаныя адзінкі.

І не так прэса, як радыё і тэлебачанне маглі б такую задачу ажыццявіць. Нават садковыя дзеці павінны ведаць, што такое радыёвыпраменьванне, якія меры аховы ад яго і якія правілы радыёгігіены. Для Беларусі, дзе ў забруджаных зонах жыве 2 млн. чалавек, гэта проста неабходна.

**Гутарку вёў Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

## Два стагоддзі таму нашы продкі пачалі барацьбу за свабоду Бацькаўшчыны

**У гэтым годзе ўся Беларусь святкуе 200-я ўгодкі пачатку Вызвольнага паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Адзначацца гэтая падзея будзе на працягу ўсяго года. І наша газета да тэмы паўстання звернецца яшчэ не раз. А сёння — наша першая, уступная публікацыя, прысвечаная падзеям 1794 г.**

...Вызвольнае паўстанне 1794 г. ставіла мэту аднавіць незалежнасць Рэчы Паспалітай — канфедэрацыі Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, вярнуць ёй землі, адабраныя Расіяй і Прусіяй у 1772 і 1793 г. у выніку першага і другога падзелаў. Кіраўнікі паўстання, сыны беларускага народа Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка і Тамаш Ваўжэцкі спадзяваліся прадоўжыць эканамічныя рэформы і дэмакратызацыю дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай паводле Канстытуцыі 3 траўня 1791 г.

Паўстанне на тэрыторыі Беларусі і Жамойці, якое пачалося ў ноч на 23 красавіка 1794 г. пад кіраўніцтвам палкоўніка (пазней генерала) Якуба Ясінскага, было скіраванае на ўсталяванне незалежнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы ў федэратыўнай лучнасці з Польшчаю. У вайсковых дзеяннях, якія ахапілі Віленшчыну, Гарадзеншчыну, Палессе, Меншчыну і доўжыліся на

(Заканчэнне на 2-й стар.).

# Два стагоддзі таму нашы продкі пачалі барацьбу за свабоду Бацькаўшчыны

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Беларусі паўгода, бралі ўдзел вайскоўцы, шляхта, сяляне, мяшчане, вернікі розных канфесій — усяго каля 30 тысяч чалавек.

Паўстанне было задушана расійскімі рэгулярнымі войскамі і найперш войскамі Суворава. Беларусь і Жамойць былі далучаны да Расіі. Беласточчына і Занёманскі край Кацярына II аддала Прусіі. Нашая Бацькаўшчына была разабраная, але застаўся жыць дух паўстанцаў, змагароў за Волю, Роўнасць, Незалежнасць, засталася памяць нашчадкаў.

Паўстанне 1794 г. зрабіла моцны ўплыў на далейшую нацыянальна-вызваленчую барацьбу беларускага народа. (Доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч).

Кандыдат гістарычных навук Уладзімір Емельянчык прадставіў кароткія біяграфічныя звесткі пра кіраўнікоў і камандзіраў паўстання 1794 г. у Беларусі.

**Андрэй Тадэвуш Касцюшка** (1746, фальварак Марачоўшчына, пад Косавам — 1817, Салюр, Швейцарыя). Паходзіў са старажытнага беларускага шляхецкага роду. Вучыўся ў Корпусе кадэтаў у Варшаве (1765—1770), Парыжскай Акадэміі мастацтваў, Парыжскай Вайсковай Акадэміі ў 1770—1774. Герой вайны за незалежнасць ЗША (1776—1884), генерал. Нацыянальны герой Беларусі, Польшчы, Злучаных Штатаў Амерыкі, ганаровы грамадзянін Францыі, кіраўнік вызвольнага паўстання 1794 г. (сакавік-кастрычнік), вязень Петрапаўлаўскай фартэцыі (1794—1796). Жыў на выгнанні ў ЗША, Францыі, Швейцарыі.



**Тамаш Ваўжэцкі** (1759, Браслаўшчына — 1816, пахаваны ў м. Відзы). У час паўстання 1794 г. сябра Найвышэйшай Нацыянальнай Рады ВКЛ, створанай 24.04, пасля паланення Андрэя Тадэвуша Касцюшкі — кіраўнік паўстання. Вязень Петрапаўлаўскай фартэцыі, вызвалены па амністыі Паўла I у 1796 г.



**Якуб Ясінскі** (1761, Вянглёва — 1794, Варшава), генерал-лейтэнант. Стваральнік і сябар Найвышэйшай Нацыянальнай Рады ВКЛ, галоўнакамандуючы паўстанцкім войскам у Беларусі. З яго непасрэдным удзелам адбыліся вызваленне Вільні (23 красавіка 1794), бітвы пад в. Паляны на Ашмяншчыне (7 мая), пад в. Солы на Смаргоншчыне (25 чэрвеня). Арганізатар партызанскіх дыверсійных рэйдаў паўстанцаў на Віцебшчыну, Меншчыну, Магілёўшчыну. Прыхільнік рэвалюцыйнай Францыі, ідэй волі і роўнасці, дзяржаўнай самастойнасці ВКЛ. Загінуў пры абароне Варшавы.



**Міхал Клеафас Агінскі** (1765—1833, Фларэнцыя), кампазітар, адзін з кіраўнікоў паўстання, сябар Найвышэйшай Нацыянальнай Рады ВКЛ. Фундатар паўстання. За свой кошт узброіў 500-асабовы атрад, на чале якога ў пачатку чэрвеня вызваліў Валожын, Івянец. Аўтар патрыятычнага звароту да жыхароў Менскага ваяводства. У жніўні ўзначаліў другі партызанскі рэйд з-пад Вільні праз Браслаўшчыну на Дзвінск (Даўгаўпілс).



**Стахван Грабоўскі** (1767, Асташын на Навагародчыне — 1847, Варшава), палкоўнік. Адзін з кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў. Вызначыўся ў бітвах з расійскімі войскамі пад Вільняй, в. Паляны і Солы. Узначаліў у жніўні-верасні партызанскі дыверсійны рэйд на Меншчыну і Магілёўшчыну. 3-тысячны атрад Грабоўскага з баямі прайшоў з-пад Іўя праз Ракаў, Пухавічы, Свіслач, Бабруйск да Любані, дзе ля ракі Арэса адбылася апошняя для паўстанцаў бітва.



Падрыхтаваў **А. ЮРЫН.**

**У сярэдзіне красавіка ў Мінску адбыўся пашыраны сход удзельнікаў Асацыяцыі прадпрыемстваў і аб'яднанняў з долевай уласнасцю працаўнікоў, у рабоце якога прынялі ўдзел прадстаўнікі 83 прадпрыемстваў і арганізацый, а таксама Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі, Беларускай асацыяцыі прадпрыемстваў недзяржаўных форм уласнасці, Беларускай асацыяцыі прадпрыемстваў радыёэлектронікі, інфарматыкі і прыладабудавання, Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Міністэрства эканомікі, Міністэрства фінансаў, Вышэйшага гаспадарчага суда, група народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь.**

# ЗВАРОТ

## *сходу Асацыяцыі прадпрыемстваў і аб'яднанняў з долевай уласнасцю працаўнікоў да Вярхоўнага Савета, Савета Міністраў і да будучага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь*

Мы, удзельнікі пашыранага сходу Асацыяцыі прадпрыемстваў з долевай уласнасцю працаўнікоў (Асацыяцыі «Экон»), з разуменнем ставімся да вашых намаганняў па пераадоленню крызісных з'яў і прапануем вам канцэпцыю стабілізацыі і хуткага аздараўлення эканомікі рэспублікі, рашэння крэдытна-фінансавых і іншых праблем, дзяржаўнага рэгулявання і ўзмацнення правапарадку, развіцця навукі, асветы, аховы здароўя, культуры, забеспячэння сацыяльных гарантый кожнаму грамадзяніну. Канцэпцыя распрацавана навукова-эканамічным цэнтрам «Экон», падтрымліваецца аўтарытэтнымі вучонымі і спецыялістамі-практыкамі, працоўнымі калектывамі, прафсаюзамі. Яна разглядалася на міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Прычыны крызісу і шляхі аздараўлення эканомікі».

У выніку яе рэалізацыі працаўнікі атрымалі б найбольшую зацікаўленасць да прадукцыйнай працы, прадпрыемствы — найбольшы прыток сродкаў для развіцця і аднаўлення вытворчасці, дзяржава — дзейны інструмент актывізацыі нацыянальнай эканомікі і надзейную крыніцу фінансавання грамадскіх патрэб без дэфіцыту бюджэту і інфляцыі.

Галоўная ідэя нашых прапаноў — прыватызацыя праз тварэнне: вырашаць праблемы выхаду з крызісу не падзелам і распродажам, а памнажэннем народнага набытку, праз перадачу вытворчасці і перадачу людзям ва ўласнасць усяго прыбытку ад іх працы і ад гаспадарчага выкарыстання іх маёмасці, за вылікам падаткаў. Кожны павінен атрымаць магчымасць зарабіць сабе ўласнасць там, дзе яго праца можа быць найболып эфектыўнай. Тады мы хутка павялічым і нацыянальнае багацце, а праз дзяржаўны падаткава-размеркавальны механізм забяспечым адпаведны ўзровень жыцця і сацыяльнай абароненасці ўсіх слаёў насельніцтва.

*ПРАПАНУЕМ:*

1. Спыніць ваўчэрную прыватызацыю, якая толькі адцягвае людзей ад справы, выклікае цяганіну і наіўныя надзеі, што можна без працы, бясплатна атрымаць крыніцу даброт. Трэба зразумець на цяжкім вопыце Расіі несправядлівасць для народа і згубнасць такой прыватызацыі для нацыі, зберагчы дзесяткі мільярдаў народных рублёў, велізарную працу і каштоўны час.

2. Адкрыць шляхі для шырокага распаўсюджвання на прадпрыемствах рэспублікі сістэмы фарміравання долевай уласнасці працаўнікоў, выкарыстоўваючы распрацоўкі навукова-эканамічнага цэнтра «Экон» і назапашаны вопыт ВА «Беларуськалій», Магілёўскага ВА «Хімвалакно», мінскага маторнага і мінскага рэсорнага заводаў, будаўнічых арганізацый, саўгасаў, калгасаў, прадпрыемстваў транспарту, гандлю, бытавога абслугоўвання насельніцтва і іншых, дзе гэта сістэма ўжо праверана.

**Надзяліць у рамках дзеючага заканадаўства і ў парадку, што вызначаецца працоўнымі калектывамі, кожнага з працаўнікоў дзяржаўных і калектыўных прадпрыемстваў долевымі ўкладамі ў статутных фондах, за кошт перадачы ім ва ўласнасць часткі чыстага прыбытку, што ўкладалася ў маёмасць прадпрыемстваў пасля 1 студзеня 1991 г. (дня ўступлення ў дзеянне Закону «Аб уласнасці»), і зацікавіць людзей эфектыўна працаваць.**

Кожны мае права рабіць для сябе і зарабляць уклады ў дапаўненне да зарплаты, каб развіваць сапраўды «сваё» прадпрыемства — для сябе, для сваёй сям'і. Па ўкладах налічваць працэнты і штомесячна выплачваць дывідэнды.

3. Прывесці ў сістэму ўсе падаткі і зборы. Скасаваць тыя, якія неабгрунтавана ўключаюцца ў сабекошт прадукцыі ў надбаўкі да яе, павышаючы цану тавараў і пазбаўляючы канкурэнтаздольнасці нашы прадпрыемствы. Вызваліць ад падаткаў тую частку прыбытку, якая ўкладваецца ў вытворчасць, і зменшыць падаткі на дывідэнды, каб людзям стала карыстна развіваць вытворчасць і назапашваць уклады ў маёмасці прадпрыемстваў. Прыток сродкаў, разам з зацікаўленасцю працаўнікоў, што працуюць на сябе, уздыме эфектыўнасць працы і прыбытковасць прадпрыемстваў.

Для ліквідацыі бюджэтнага дэфіцыту і інфляцыі, стабілізацыі цэн і ўзмацнення правапарадку ўстанавіць падатак на маёмасць прадпрыемстваў і фізічных асоб у выглядзе дзяржаўнага страхавання, са 100-працэнтнай гарантыяй аховы маёмасці, што будзе стымуляваць зніжэнне рэсурсаёмістасці і павышэнне фондааддачы, паскараць абарачальнасць сродкаў.

4. Прадаставіць роўныя правы прадпрыемствам усіх форм уласнасці і пашырыць аператыўныя паўнамоцтвы кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, перадаць пытанні размеркавання чыстага прыбытку саветам (праўленням) прадпрыемстваў, як таго патрабуе Закон «Аб прадпрыемствах», і пад кантроль іх працоўных калектываў.

5. Пераўтварыць галіновыя міністэрствы, ведамствы ў гаспразліковыя аб'яднанні прадпрыемстваў з шырокімі паўнамоцтвамі і асабістым долевым удзелам працаўнікоў іх апарата ў маёмасці і прыбытках. І тым самым зменшыць расходы бюджэту і дабіцца асабістай зацікаўленасці спецыялістаў кіраўніцкіх органаў галін у эфектыўнай канцэнтрацыі сродкаў, аднаўленні фондаў і тэхналогій, паскарэнні выхаду нашых прадпрыемстваў на сусветны рынак.

Рэарганізацыю органаў кіравання і структур прадпрыемстваў і арганізацый ажыццяўляць з гарантыяй нармальнага працаўладкавання і сацыяльнай абароненасці людзей.

6. Адкрыць шляхі прамым гаспадарчым сувязям прадпрыемстваў заключэннем эканамічных саюзаў з Расіяй, Украінай і іншымі дзяржавамі. Не замыкаць бязмежныя магчымасці ўсіх форм, этапаў і варыянтаў гэтых саюзаў ідэяй абавязковага аб'яднання грашовых сістэм.

7. Устанавіць прамую сувязь заработнай платы кіраўнікоў дзяржаўных органаў і сацыяльнай сферы, настаўнікаў, урачоў, вайскоўцаў, вучоных, а таксама пенсій, стыпендый і грашовай дапамогі, з сумарнымі даходамі працаўнікоў вытворчай сферы, банкаўскіх і прадпрымальніцкіх структур.

**Гэтыя простыя, карысныя для людзей меры, за якімі стаяць сістэмныя навуковыя рашэнні, хутка прывядуць эканоміку да ладу, узнімуць эфектыўнасць гаспадарання, стабілізуюць цэны, палепшаць умовы жыцця ўсіх слаёў насельніцтва.**

Прынята аднагалосна галасаваннем з удзелам гасцей і запрошаных асоб.

**Яўген ДОЎГЕЛЬ,**
**старшыня сходу,**
**старшыня савета асацыяцыі.**

ГЭТЫХ ДЗЁН НЕ ЗМОЎКНЕ СЛАВА

# НІШТО НЕ ЗМЕНШЫЦЬ ЗНАЧЭННЯ ПЕРАМОГІ

## *(З УСПАМІНАЎ ФРАНТАВІКА)*

Лепшыя маладыя гады майго пакалення прайшлі ў армейскіх казармах, бліндажах, зямлянках і акопах.

З першага да апошняга дня знаходзіўся я на фронце. Прайшоў шлях ад Львова да Перамышля цераз усю Украіну да Сталінграда, а затым назад — ад Сталінграда да Берліна і Прагі. Мае пасады: радавы, камандзір гарматы, намеснік камандзіра роты па палітчастцы, камандзір узвода, камандзір батарэі. З пазіцыі франтавога салдата і афіцэра хацелася б выказаць сваё ўяўленне пра Вялікую Айчынную.

Асноўныя вехі вайны ўсім вядомыя: цяжкае паражэнне Чырвонай Арміі ў пачатковы перыяд супрацьстаяння гітлераўскаму нашэсцю і акупацыя ворагам агромністай тэрыторыі савецкай краіны; пералом у ваенных дзеяннях на карысць нашых войск і ў канчатковым выніку перамога над фашысцкай навалай.

Так, савецкі народ адстаяў гонар, свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы, ўратаваў увесь свет ад рабскай долі. Але перамога дасталася нам у пакутлівай барацьбе, каштавала дзесяткаў мільёнаў жыццяў людзей, велізарных матэрыяльных страт.

Ці мог быць іншым ход Вялікай Айчыннай вайны, задаюся часта пытаннем. І прыходжу да высновы: так. Але толькі пры адной умове: калі ўдалося б пазбегчы грубых памылак і пралікаў нашага партыйнага і дзяржаўнага кіраўніцтва, камандавання ўзброеных сіл. Пацвердзіць сваю думку магу на прыкладзе вайсковых часцей, дзе я праходзіў службу ў мірны і ваенны час.

Вось два мае пачатковыя ўражанні. Пры звышжорсткай дысцыпліне — нізкі ўзровень баявой падрыхтоўкі. Гэта першае. Другое — поўная адсутнасць сучаснай ваеннай тэхнікі на ўзбраенні арміі. Убачыў я гэта, калі, згодна з прадпісаннем Чэрвеньскага райваенкамата, прыбыў для праходжання службы ў 18-ы зенітна-артылерыйскі полк, у горад Жмерынку, што на Украіне. Адразу адчуў — дысцыпліна ў палку аракчэеўская. Наймалейшая правіннасць — нарад па-за чаргой, гаўптвахта, таварыскі суд.

Мяне ўразіла суровае пакаранне Клімаву, камандзіру аддзялення. Пасля звальнення ў горад, спазніўся на паўтары гадзіны вярнуцца ў казармы. Суд прыгаварыў яго да двух гадоў службы ў дысцыплінарным батальёне.

У батарэі час быў распісаны па хвілінах. Асабліва даймала страявая падрыхтоўка. Нікому не патрэбная муштра, якая ніякага дачынення да набыцця ваенных ведаў не мела. А мела на мэце адно навядзенне знешняга глянцу. Любое падраздзяленне ацэньвалася па захаванню вайсковай дысцыпліны, уменню аддаць чэсць, паказаць страявую выпраўку, прайсці чаканным крокам. Для ацэнкі камандзіраў батарэй і ўзводаў былі два крытэрыі: гучны камандны голас і заліхвацкі страявы крок на аглядах і парадах.

Што ж тычыцца непасрэдна баявой падрыхтоўкі, дык яна, як кажуць, кульгала на абедзве нагі. Камандзіры аддзяленняў, якім яна была аддадзена на водкуп, былі, як правіла, малапісьменныя. Яны сёе-тое засвоілі, але не больш. Што яны маглі даць?

За восем месяцаў даваеннай службы мы толькі 3—4 разы стралялі з баявой вінтоўкі і ні разу — з гарматы, кулямёта, пісталета. На вочы не бачылі аўтамата. Вось такая баявая падрыхтоўка ў пярэдадзень страшнай вайны.

Згадваецца, як на чацвёрты месяц службы дзяжурыў я ў афіцэрскай сталовай-зямлянцы ў зімовым лагеры. Для нас, чырвонаармейцаў з вышэйшай адукацыяй, гэта быў зневажальны занятак: акрамя падтрымання чысціні і парадку, мыцця посуду, трэба было яшчэ падаваць камандзірам ежу. На дзяжурства я ўзяў з сабой невялікую, але змястоўную кніжку «Трапічная прырода», захапляльна напісаную. Яна трапіла на вочы камандзіру палка. Той спытаў, чыя кніжка. Адказваю: мая. Думаў, што маёр папросіць яе пачытаць. Але дзе там. Ён з лаянкай накінуўся на мяне: маўляў, малады салдат, не засвоіў вайсковы статут, матэрыяльную частку гарматы, а чытаеш пустыя кнігі. Хіба для гэтага прызываўся ў армію?

Мой камузвода патлумачыў, што гэты салдат — выдатнік баявой і палітычнай падрыхтоўкі, і што кніга — па профілю яго цывільнай прафесіі. Тут жа папала і ўзводнаму. Неадкладна, падчас абеда, кампалка загадаў аднаму з камбатаў прыняць у мяне экзамен. Відавочна, сам маёр не мог толкам сфармуляваць пытанні.

На ўсе пытанні камандзіра батарэі я адказаў. Ён і далажыў маёру, што салдат падрыхтаваны добра і дадаў, што адно па тэорыі стральбы не экзаменаваў, бо гэта не ўваходзіць у навучальную праграму. Я сказаў, што магу і на гэта адказаць і тут жа выклаў сутнасць рашэння задачы на апераджэнне пры стральбе па самалётах.

Прысутныя камандзіры з цікаўнасцю сачылі за гэтай камедыяй.

На наступны дзень увесь полк гаварыў пра паядынак у сталовай, прычым вайскоўцы не хавалі задавальнення, што спрэчку ў кампалка выйграў салдат. Я чакаў навальніцы, але камбат, старшы лейтэнант Агапаў аб'явіў мне падзяку за выдатную падрыхтоўку.

Яшчэ больш неміласэрная муштра пачалася ўзімку 1940—41 гадоў з прыходам на пост наркама абароны маршала С. К. Цімашэнкі. Яму б замест гэтай муштры заняцца аснашчэннем арміі найноўшай баявой тэхнікай. А па яго загаду пад зручнай зачэпкай загартаваць, маўляў, здароўе і баявы дух асабовага складу нас прымушалі з халоднай брызентавай палаткі, дзе мы начавалі ў зімовым лагеры, бегчы распранутымі да пояса да ракі, у якой мы мыліся ледзяной вадой. А пасля зноў жа ў холадзе — заняткі, галоўным чынам, той жа страявой.

Лазня была для нас святам. Праўда, хадзілі туды мы пехатою: у Жытомір 17 кіламетраў і назад столькі. І гэтак кожныя 10 дзён.

У канцы мая наш полк перадыслакавалі пад Львоў — бліжэй да граніцы. Адчувалася набліжэнне ваеннай бяды. З-за мяжы даходзілі час ад часу весткі пра каварныя германскія планы. Ды мы ім не давалі веры. Адбівалася на нас ілжывая ўпэўненасць Сталіна і яго акружэння, што Гітлер не пачне вайну. Вось што значыць штодзённае ўдзёўбванне ў галаву пэўных догмаў.

Між тым становішча ўсё больш напалялася. Полк быў укамплектаваны па штатах мірнага часу. Што датычыць узбраення, дык толькі ў маі мы атрымалі па дзве новыя, больш магутныя гарматы на батарэю, але без снарадаў да іх, якія завезлі за лічаныя дні да пачатку ваенных дзеянняў. Прыбылі і рэзервісты з мясцовага насельніцтва.

У першы дзень вайны полк па баявой трывозе накіраваўся на фронт. Па дарозе нас абстраляў варожы самалёт. Я, пад той час камандзір гарматы, даў каманду страляць па ім. Але мая, як і іншыя гарматы, маўчала. Аказалася, акрамя наводчыка, увесь гарматны разлік — тыя самыя рэзервісты — разбегліся. Сабраў іх, пагутарыў. Ноччу, аднак, яны ўцяклі дахаты. За адну-дзве ночы знікла ўсё палкавое папаўненне з мясцовага рэзерву.

...Цяжкае працяглае адступленне. Поўная перавага ворага ў паветры і на зямлі. Наша ўзбраенне па ўсіх пунктах уступала непрыяцельскаму. Узяць зеніткі. Яны супраць самалётаў былі неэфектыўнымі, хоць і апраўдалі сябе пры адбіцці танкавых атак.

Ужо ў першыя дні баёў сталіся відавочныя грубыя памылкі вышэйшага партыйнага, савецкага і ваеннага кіраўніцтва, якое не ўлічыла сучаснай стратэгіі, думала старымі катэгорыямі. «Кавалерысты» Варашылаў, Будзённы, Цімашэнка недаацэньвалі ролю ваеннай тэхнікі, рабілі апору на конніцу. Цвет камандавання Чырвонай Арміі быў знішчаны Сталіным, сярод іх тыя, што спавядалі прагрэсіўную ваенную дактрыну.

Так, к канцу 1942 года армія была рэарганізавана, пераўзброена выдатнай тэхнікай, выраслі за гэты час новыя афіцэрскія кадры і генералітэт. Але ж да часоў Сталінграда прайшло паўтара доўгія гады! І калі б не злачынныя дзеянні, што прывялі да знішчэння каманднага корпуса савецкіх узброеных сіл, фашысты не толькі не дайшлі б да Масквы і Сталінграда, а, упэўнен, наша дзяржаўная граніца засталася б недатыкальнай.

Нас білі. Мы не ведалі ў часіны адступлення, што там на фронце, хаця і самі былі фронтам. Нам мноства раз прызначалі канчатковыя рубяжы абароны, у прыватнасці, «абарончы вал» старой, да 1939 года, граніцы. Але ўзведзеныя там збудаванні прыйшлі ў заняпад і нічым не дапамаглі савецкім войскам.

На пачатку 42-га года вялікая група нашага палку, у тым ліку і я, папоўніла слынную 100-ю дывізію, што абараняла Мінск, а потым стала першай у Чырвонай Арміі гвардзейскай. Але слава славай, а зброя ў дывізіі была дапатопнай. Мінамёты, з якімі мне цяпер давялося мець справу, былі эфектыўным сродкам супраць варожай пяхоты, але не супраць танкаў. І зноў нам даводзілася ў барацьбе з імі прыбягаць да бутэлек з запальнай сумессю, упершыню ў нашай арміі прымененых якраз сотаўцамі пры абароне ад гітлераўцаў Мінска. І яшчэ яскравы факт нашай адсталасці: батарэя была на коннай цязе, значна пазней замененай механічнай. А наша дывізія перафарміравана і пераўтворана ў 1-ы гвардзейскі механізаваны корпус, папоўнілася сучаснай тэхнікай і людзьмі, у асноўным сібіракамі.

*(Заканчэнне будзе).*

Аляксандр МАХНАЧ,
акадэмік,
саветнік прэзідыума АНБ,
галоўны навуковы супрацоўнік
Інстытута геалагічных навук.

## *ПРА ЎРАЧЫСТАСЦІ І НЕ ТОЛЬКІ ПРА ІХ*

На пасяджэнні прэзідыума Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў АНБ абмеркаваны пытанні, звязаныя са святкаваннем Дня Перамогі, з падрыхтоўкай да 50-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў.

Прэзідыум РКП работнікаў АНБ рэкамендуе прафкамам інстытутаў і арганізацый Акадэміі навук правесці напярэдадні Дня Перамогі святочныя сходы і сустрэчы з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, сем'ямі загінуўшых франтавікоў і партызанаў, аказаць маючым асаблівую патрэбу матэрыяльную падтрымку.

Заслухана інфармацыя старшыні камісіі РКП па культурна-масавай рабоце Л. А. Казыры аб паспяховым удзеле капелы АНБ на міжнародным конкурсе харавога мастацтва ў Італіі. Капела заняла 5-е месца сярод 16 ўдзельнікаў.

На пятым пленуме РКП, які намечана правесці ў канцы мая — пачатку чэрвеня, плануецца абмеркаваць асноўныя палажэнні нядаўна прынятай Вярхоўным Саветам РБ Канстытуцыі краіны, якія тычацца, у прыватнасці, сацыяльнай абароны супрацоўнікаў АНБ. Мяркуецца таксама разгледзець асобныя аспекты забеспячэння навукоўцаў і іншых работнікаў акадэміі жыллём.

## ВІНШАВАННЕ ДА ДНЯ ПЕРАМОГІ

*Прэзідыум Акадэміі навук Беларусі, Рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў АНБ, Савет ветэранаў АНБ віншуюць удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гадоў, усіх супрацоўнікаў акадэміі з усенародным святам — Днём Перамогі.*

*Мы адзначаем гэтае свята напярэдадні слаўнага юбілею — 50-х угодкаў вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

*Зычым усім добрага здароўя, дастатку, плённай працы на шчасце нашага народа.*

Прэзідэнт Акадэміі навук Беларусі акадэмік Л. М. СУШЧЭНЯ.
Старшыня Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў АНБ, доктар юрыдычных навук А. У. МАТУСЕВІЧ.
Старшыня Савета ветэранаў АНБ прафесар А. П. ПРЫШЫВАЛКА.

ІНТЭР-ДАЙДЖЭСТ

## *ВЫСОКАТЭМПЕРАТУРНЫ ЗВЫШПРАВАДНІК*

Як высветлілі спецыялісты Ілінойскага ўніверсітэта і Аргонскай нацыянальнай лабараторыі, высокатэмпературны ртуцьутрымліваючы звышправаднік, які ўпершыню быў атрыманы вучонымі Расіі ў сакавіку мінулага года, валодае ў параўнанні са сваімі аналагамі істотнай годнасцю — даволі высокай тэхналагічнасцю, што робіць яго прывабным для камерцыйнага прымянення.

Уласцівасці большасці вядомых высокатэмпературных вісмут- альбо ітрытутрымліваючых звышправаднікоў залежаць ад арыентацыі іх часцінак, г. зн. найлепшыя характарыстыкі дасягаюцца пры аднастайным упарадкаванні, якое дасягаецца шляхам ударажання тэхналогіі вырабу. Так, для атрымання вісмутутрымліваючых звышправаднікоў прымяняюць аперацыі складанай практыкі, выцяжкі і награвання, што абмяжоўвае магчымыя віды фармоўкі.

Як устанавілі амерыканскія спецыялісты, магнітныя ўласцівасці новага ртуцьутрымліваючага звышправадніка не залежаць ад накірунку арыентацыі часцінак. Такая незалежнасць захоўваецца да велічынь індукцыі магнітнага поля каля 1 Тл, але не пры слабых магнітных палях. Часцінкі гэтага звышправадніка, які ўтрымлівае таксама атамы барыя, медзі і кіслароду, памяшчаюцца ў матрыцы з эпаксіднага кампаўнда. Дзякуючы гэтаму дасягаецца высокая тэхналагічнасць, але ўскладняецца тэхніка бяспекі, паколькі звышправаднік утрымлівае ртуць.

## ЗША: НА ЎЗБРАЕННЕ — «НЕСМЯРОТНУЮ» ЗБРОЮ

У рэгіянальных канфліктах амерыканскія ваеннаслужачыя будуць шырока прымяняць так званую несмяротную зброю. Гэта спецыяльныя хімічныя рэчывы, што блакіруюць работу рухавікоў унутранага згарання і прыводзяць у непрыгоднасць гумавыя пакрышкі некаторых відаў. Гэта лазеры для асляплення аптычных сістэм навядзення. Гэта пераносныя генератары СВЧ-выпраменьвання, якія амерыканскія войскі плануюць выкарыстаць для вывядзення са строю сродкаў сувязі праціўніка. Аднак, на думку асобных спецыялістаў, падобную зброю наўрад ці можна лічыць гуманнай, таму што выпраменьванне тых жа лазераў можа апаліць вочы, а генератараў — пашкодзіць унутраныя органы чалавека. Тым не менш, паводле сцвярджэння газеты «Уол стрыт джэрнал», заяўкі на «несмяротную» зброю паступілі ўжо з боку некалькіх рэгіянальных камандаванняў ЗША.

## АБ КАРЫСЦІ ФІЗІЧНЫХ ПРАКТЫКАВАННЯЎ

Рэгулярныя фізічныя практыкаванні і фізічнае здароўе не стымулююць паляпшэнне душэўнага стану. Даследчыкі Свабоднага універсітэта Амстэрдама (Нідэрланды) не прыкмецілі розніцы ў псіхалагічным стане ў 62 вядучых сядзячы спосаб жыцця псіхічна здаровых людзей пасля завяршэння васьмімесячнага курса фізічнай трэніроўкі альбо зусім не праходзіўшых яе.

Аднак следствам фізічных практыкаванняў з'явіліся зніжэнне частаціні пульса і змяншэнне крывяного ціску, што можа змякчыць уздзеянне на іх псіхалагічны стан стрэсаў і непрыемнасцей. Фізічныя практыкаванні могуць таксама быць карыснымі для людзей, якія адчуваюць трывогу або дэпрэсіі.

ВАЧАМІ ФОТАМАСТАКА



*Вясновы настрой.*

# Землетрасенні ў Беларусі? Гэта не фантастыка

У комплексе прыродных працэсаў і з'яў, што аказваюць уплыў на навакольнае асяроддзе, асаблівая роля належыць сейсмічнасці зямных нетраў. Гэты новы для Беларусі геафізіка-экалагічны накірунак даследаванняў звязаны з працай Інстытута геалагічных навук АНБ. Спецыялістамі інстытута вывучаецца ўздзеянне на тэрыторыю рэспублікі і суседніх рэгіёнаў землетрасенняў Карпат, Крыма, Каўказа. Ужо ўстаноўлена, што інтэнсіўнасць трасення зямной паверхні ад іх можа перавышаць пяць балаў. Разглядаецца таксама мясцовая сейсмічнасць, прыгадванне аб якой да нядаўняга часу выклікала скептычныя адносіны маладасведчаных людзей. Тым не менш, за апошнія дзесяцігоддзі на тэрыторыі рэспублікі і краін Балтыі зарэгістравана звыш 35 землетрасенняў з інтэнсіўнасцю да 6—7 балаў. Іх праяўленні захоўваюцца ў «памяці» архіўных і геалагічных летапісаў. Разам з тым, сейсмічнымі станцыямі інстытута інструментальна зарэгістравана вялікая колькасць 4—5 бальных мясцовых землетрасенняў з ачагамі ў межах Прыпяцкага прагіна і Беларускага масіва. У раёне Салігорска, акрамя тэктанічных землетрасенняў, выяўлены сейсмічныя падзеі, звязаныя з распрацоўкай месцанараджэння калійнай солі. Назіраецца ўзмацненне гэтых працэсаў у часе. Усё гэта сведчыць пра высокую сейсмічную актыўнасць нетраў Беларусі з выцякаючымі адсюль негатыўнымі вынікамі. Яна можа прывесці да аварый на прамысловых і грамадзянскіх аб'ектах, на атамных станцыях, што акружаюць Беларусь, на магістральных газа-нафтаправодах, на прадпрыемствах, што вырабляюць ці выкарыстоўваюць атрутныя альбо выбуховыя рэчывы. Небяспека будзе ўзрастаць з далейшым развіццём асабліва адказных народнагаспадарчых аб'ектаў. У сувязі з гэтым праблема дасканалага вывучэння і ўліка сейсмагеадынамікі нетраў рэгіёна бачыцца надзвычай актуальнай.

Усё вышэйсказанае падштурхнула Інстытут геалагічных навук АНБ распрацаваць праграму стварэння Беларускай сістэмы сейсмічнага маніторынга (БССМ). Яе асноўнай мэтай з'яўляецца неперапынны кантроль і прагназіраванне сейсмічнага рэжыму тэрыторыі рэспублікі, забеспячэнне аператыўнай інфармацыяй дзяржаўных органаў усіх узроўняў кіравання аб магчымых ці прайшоўшых землетрасеннях, распрацоўка і выдача рэкамендацый па змяншэнню негатыўных вынікаў сейсмічных падзей.

Прадугледжаны комплекс навукова-тэхнічных, арганізацыйных мерапрыемстваў. Яны абапіраюцца на навукова-эксперыментальную базу — Беларускую сістэму сейсмічных назіранняў, якая ў цяперашні час складаецца з дзвюх сейсмагеамагнітных абсерваторый першага класа «Плешчаніцы» і «Нарач», рэгіянальных сейсмічных станцый «Гомель» і «Брэст» і высокачастотнай станцыі «Салігорск». У комплексе праводзяцца геадэзічныя, геамагнітныя, гідрахімічныя і гідрагеадынамічныя назіранні і іх аналіз.

Для здзяйснення паўнацэннага сейсмічнага маніторынга неабходна ўдасканаліць усю сістэму шляхам яе арыентацыі на комплекснае вывучэнне аддаленых і мясцовых крыніц сейсмічнай радыяцыі, перавесці сейсмастанцыі на лічбавую рэгістрацыю, распрацаваць сістэмнае матэрыяльнае забеспячэнне БССМ. Важна аснасціць сейсмастанцыі сучаснымі сродкамі сувязі для перадачы інфармацыі ў цэнтр збору і апрацоўкі даных, а таксама для аператыўнага апавяшчэння адпаведных інстанцый. Для гэтага трэба ўключыць БССМ у Рэспубліканскую аўтаматызаваную сістэму экалагічнага кантролю і кіравання дзеяннямі ў надзвычайных сітуацыях. Усё гэта вызначае неабходнасць шырокага ўзаемадзеяння з адпаведнымі ўстановамі рэспублікі — Дзяржкамэкалогіі, Белгідраметам, Штабам грамадзянскай абароны, Дзяржбудам, Дзяржатамнаглядам і інш., якія зацікаўлены ў атрыманні інфармацыі сейсмічнага маніторынга.

Натуральна, што стварэнне і паспяховае функцыяніраванне сістэмы патрабуе добрага матэрыяльнага і навукова-арганізацыйнага забеспячэння. Для ажыццяўлення работ неабходна выдзеліць адпаведныя асігнаванні з дзяржбюджэту. Бюро прэзідыума АНБ пагадзілася арганізаваць Беларускі рэспубліканскі навукова-вытворчы сейсмалагічны цэнтр (па рэкамендацыі Камісіі СМ РБ па надзвычайных сітуацыях) на базе сейсмалагічных падраздзяленняў Інстытута геалагічных навук — лабараторый сейсмалогіі і вопытна-метадычнай партыі. Створаная БССМ з'явіцца важным звяном у сістэме экалагічнага маніторынга краін заходняй часткі Усходне-Еўрапейскай платформы (Украіна, Малдова, захад Расіі, краіны Балтыі). Акрамя таго, яна будзе садзейнічаць сейсмалагічным даследаванням, што праводзяцца ў рамках «Пагаднення аб супрацоўніцтве і ўзаемадзеянні ў галіне вывучэння і прагназіравання сейсмічнай небяспекі», якое падпісалі кіраўнікі ўрадаў адзінаццаці краін СНД, у тым ліку і Рэспубліка Беларусь.

**А. БАБАРЫКІН,**
кандыдат геолага-мінералагічных навук, загадчык лабараторыі сейсмалогіі АН РБ Інстытута геалагічных навук АНБ.

# МЯККІ ЗНАК І МОЎНАЯ КАНФРАНТАЦЫЯ

**У мінулым годзе Савет Міністраў Беларусі ўтварыў Дзяржаўную камісію па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы. Першы этап сваёй работы камісія завяршыла і вынесла на суд грамадскасці свае прапановы па зменах у правапісу (яны апублікаваны ў «Чырвонай змене» ад 25 студзеня 1994 г.). Вучоны савет Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АНБ разгледзеў гэты дакумент. Свае прапановы і заўвагі ён накіраваў у камісію. Карэспандэнт нашай газеты Аляксандр Юрын сустрэўся з намеснікам дырэктара інстытута кандыдатам філалагічных навук Аляксандрам Аляксандравічам Лукашанцом і папрасіў яго падзяліцца вынікамі абмеркавання:**

— Усебакова разгледзеўшы ўсе прапановы, якія Дзяржаўная камісія вынесла на грамадскае абмеркаванне, вучоны савет інстытута лічыць неабходным звярнуць увагу на шэраг прынцыповых палажэнняў, якія павінны быць абавязкова ўлічаны пры прыняцці канчатковага рашэння адносна ўнясення змен у правапіс. Галоўнае — яны не павінны закранаць асноўных прынцыпаў правапісу і карэнным чынам змяняць усталяваныя нормы і правілы перадачы на пісьме вуснай мовы. Мэтазгодна ўнесці толькі ўдакладненні, скіраваныя на ліквідацыю разнабою ў напісанні аднатыпных слоў і паслядоўнае адлюстраванне на пісьме аднолькавых моўных з'яў.

Практычна ўсе выказаліся супраць пашырэння ўжывання мяккага знака для абазначэння асіміляцыйнай мяккасці зычных. Такі крок прывёў бы да істотнай змены існуючага правапісу беларускай мовы, паколькі ён закранае напісанне вялікага пласта беларускай лексікі. Тым больш, што для яго няма дастатковых лінгвістычных падстаў. Па-першае, гэта вядзе да разбурэння адзінства марфемы. Па-другое, асіміляцыйнае змякчэнне зычных не характэрна для значнай часткі беларускіх гаворак, таму абазначэнне гэтай з'явы на пісьме стварыла б дадатковыя цяжкасці ў карыстанні пісьмовай формай для вялікай колькасці носьбітаў беларускай мовы. Па-трэцяе, у педагогіцы нікім не даказана, што арфаграфія непасрэдна ўплывае на вымаўленне, у той час як факты розных моў сведчаць аб пэўнай незалежнасці арфаэпіі і арфаграфіі. І, нарэшце, гэта ідзе ўразрэз з агульным прынцыпам эканоміі моўных сродкаў, да якога імкнуцца ўсе мовы свету.

Нельга не ўлічваць і такі адмоўны бок пашырэння ўжывання мяккага знака на пісьме, як тэрміновае перавыданне велізарнай колькасці слоўнікаў, іншай кніжнай прадукцыі, што ў сучасных умовах практычна немагчыма.

Разам з тым, вучоны савет падтрымлівае прапановы Дзяржаўнай камісіі, якія тычацца некаторых правілаў пераносу слоў, падпарадкавання агульнаму правілу напісання пачатковага ненаціскнога У у запазычаных словах і інш. (пункты 2, 4, 5, 8, 9, 12 «Выніковага дакумента...» камісіі).

Па шэрагу пунктаў мы ўнеслі пэўныя заўвагі і прапановы.

***— Аляксандр Аляксандравіч, калі падагульніць усё вамі сказанае, атрымліваецца, што Інстытут мовазнаўства выступае толькі за ўнясенне некаторых змен у правапіс. У той жа час пэўная частка нашага грамадства заклікае да правядзення рэформы беларускага правапісу. Ці не станецца так, што «касметычнае» упарадкаванне некалькіх правілаў не вырашыць праблемы моўнага разнабою, які назіраецца зараз у Беларусі, асабліва ў сродках масавай інфармацыі?***

— Патрабаванне рэформы правапісу абумоўлена хутчэй не лінгвістычнымі прычынамі, а палітычнымі, звязанымі са зменай моўных арыентацый часткі носьбітаў беларускай мовы. Унясенне значных змен у існуючы беларускі правапіс у сучаснай моўнай сітуацыі прывядзе толькі да негатыўных вынікаў. Па-першае, гэта адмоўна адаб'ецца на пашырэнні беларускай мовы ў важнейшых сферах зносін, бо арфаграфічны разнабой перашкаджае яе ўкараненню ў афіцыйным ужытку, што на сённяшні дзень з'яўляецца найбольш важнай задачай. Па-другое, у выніку рэформы тыя, хто будуць актыўна карыстацца беларускай пісьмовай мовай, рэальна могуць аказацца адрэзанымі ад культурных, духоўных, навуковых здабыткаў, якія назапашаны ў выглядзе друкаванай кніжнай прадукцыі папярэдніх гадоў. Больш таго, непісьменнай стане большая частка насельніцтва Беларусі, якая не зможа карыстацца пісьмовай формай рэфармаванай беларускай мовы. Па-трэцяе, нестабільнасць правапісных нормаў адмоўна ўплывае на канкурэнтаздольнасць беларускай мовы з рускай у важнейшых сферах зносін.

Вядома, што змены ў правапісу любой мовы, нават самыя нязначныя, робяцца звычайна тады, калі гэтая мова займае трывалыя пазіцыі ў грамадстве. Аднак, пра беларускую мову гэтага сказаць зараз нельга. Што ж тычыцца цяперашняга моўнага разнабою, то вучоны савет лічыць: неабходна тэрмінова прыняць дзейсныя захады, накіраваныя на захаванне ў сродках масавай інфармацыі нормаў літаратурнай мовы, якія ніхто не адмяняў.

## ВАКАНСІІ

**Отделение физико-технических проблем машиностроения и энергетики АН Беларуси объявляет конкурс на замещение вакантной должности директора Института прикладной физики.**

**Право выдвижения кандидатур на указанную должность принадлежит бюро отделения, ученому совету и научным подразделениям института, членам Академии наук.**

**Предложения о выдвижении кандидатов на должность директора института направлять по адресу: 220072, г. Минск, пр-т Ф. Скорины, 66, Отделение физико-технических проблем машиностроения и энергетики. Тел. для справок: 39-46-71.**

**Срок подачи документов — месяц со дня опубликования объявления.**

*«НАВІНЫ АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ»*

Штотыднёвая газета Акадэміі навук Беларусі

Рэдактар Аля ШЫМАНОВІЧ

Адрас рэдакцыі: 220072, г. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 1, пакоі 309а, 309 б. Тэлефоны: рэдактара — 39-46-12, карэспандэнтаў — 39-54-51
Мінская фабрыка «Чырвоная зорка» МПВА імя Я. Коласа

Падпісана да друку 4.05.94 г.
Зак. 1028.
Тыраж 1250 экз.

Індэкс 64123